# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 16 (34) | 15-га сьнежня 1929 году | № 16 (34)


## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА

### Усебеларускай Вытворчай Лесанарыхтоўчай Канфэрэнцыі па дакладу Лесбелу аб падрыхтоўцы да лесанарыхтоўчай кампаніі і кантрольных лічбах лесанарыхтовак на 29-30 г.

Заслухаўшы даклад Лесбелу аб падрыхтоўцы да лесанарыхтоўчай кампаніі і кантрольных лічбаў лесанарыхтовак на 29-30 г. Усебеларуская Вытворчая Канфэрэнцыя адзначае:

1. Павялічэньне праграмы лесанарыхтовак у 29-30 г. на 57 проц. (у 28-29 г. 1.950.000 к. м., у 29-30 г.—3.400.400 к. м.) і экспортнай праграмы на 100 проц.

2. Частковы пераход да мэханізацыі лесанарыхтовак як та: набыцьцё 20 маторных піл, 10 трактараў.

3. Арганізацыя курсаў па падрыхтоўцы дзесятнікаў і матарыстаў.

Адначасова з гэтым Канфэрэнцыя адзначае, што Лесбелам да гэтага часу ня прыняты ўсе захады да арганізацыі лесанарыхтовак, як та:

1. Ня ўжыты меры да забесьпячэньня лесанарыхтовак кваліфікаванымі кадрамі і няроўнамернае разьмяркаваньне налічча кадраў паміж аддзяленьнямі.

2. Недастатковае забесьпячэньне лесанарыхтовак інструмэнтамі (піламі, тапарамі), а таксама прадуктамі харчаваньня, незаключэньне да гэтага часу дагавароў з НКАховы Здароўя.

3. Ня прыняты меры да разгортваньня жылбудаўніцтва на лесанарыхтоўках у дастатковых разьмерах і маецца пагроза што лесарубам зноў ня будуць забясьпечаны належныя бытавыя ўмовы, што, бязумоўна, адбіваецца на тэмпе лесанарыхтовак.

4. Адзначае, што каапэрацыйныя органы, органы НКАховы Здароўя не падрыхтаваліся да абслугоўваньня рабочых на лесанарыхтовках, што пагражае зрыву лесанарыхтовак.

5. Канфэрэнцыя адзначае, што ня гледзячы на шэраг пастаноў вышэйстаячых органаў, адвод і перадача лесасек да гэтага часу НКЗБ ня выканана ў значнай колькасьці.

Дзеля зьнішчэньня ўсіх гэтых недахопаў ў падрыхтоўцы да лесанарыхтовак і хутчэйшага зьмяненьня тэмпу і мэтадаў усёй работы па ласанарыхтовак у адпаведнасьці з дырэктывамі партыі і ўлады аб лесанарыхтоўках, Усебеларуская Вытворчая Канфэрэнцыя зьвяртае асаблівую ўвагу ўсіх гаспадарнікаў на неабходнасьць рашучага адмаўленьня ад ранейшых мэтадаў лесанарыхтоўчых работ і абавязковае правядзеньне ў жыцьцё дырэктыў улады аб рацыяналізацыі лесанарыхтовак і арганізацыі працы на лесанарыхтоўках, для чаго правесьці наступныя мерапрыемствы.

### Па лініі Лесбелу.

1. Правесьці шырокае прымяненьне рацыяналізацыі і мэханізацыі лесанарыхтовак, для чаго Лесбелу, як мінімум, у 1929-30 годзе набыць яшчэ 100 маторных піл і 25 троктараў. А таксама аб'явсьціць рашучую барацьбу праяўленаму „неверыю", надзьмернай асьцярожнасьці і кансэрватызму супрацоўнікоў у правядзеньні мэханізацыі лесанарыхтовак.

2. Канфэрэнцыя адзначае, што пытаньне рацыяналізацыі і мэханізацыі працы і вытварэньне капітальных укладаў на мэханізацыю і палепшаньне ўмоў працы і ўтварэньня кадраў сталых рабочых—патрабуе неабходнасьці перадачы лесапрамысловасьці, аб чым Канфэрэнцыя даручае ЦП саюзу і Лесбелу дабіцца ў адпаведных органах хутчэйшега вырашэньня пытаньня аб перадачы леса ВСНГБ і арганізацыі леспрамгасаў.

3. Адабраючы рашэньні ЦП саюзу і НКПрацы аб утварэньні пры НКПрацы апарату па вярбоўцы рабочых на лесанарыхтоўкі, што забясьпечыць прадстаўленьне работ пралетарскім і батрацкім кадрам. Канфэрэнцыя аднвчасова зьвяртае асаблівую ўвагу органаў НКПрацы на хутчэйшае ўтварэньне гібкага апарату, а таксама максімум увагі і садзейнічаньня рабоце вярбоўкі рабочых з боку саюзных і гаспадарчых органаў.

4. Лесбелу прыняць тэрміновыя захады к сваечасоваму забесьпячэньню рабочых з батракоў і членаў саюзу на лесанарыхтоўках:

а) Інструмэнтамі, якія лічыць інвэнтаром гаспадарч. органу, а таксама для гэтых жа рабочых паставіць спэцыяльнага пілаточа, з разьліку аднаго чалавека на 25 піл.

б) Прадуктамі харчаваньня і забясьпечыць арганізацыю грамадзкага харчаваньня, праз заключэньне дагавароў з каапэрацыяй.

в) Прыблізіць да лесанарыхтовак мэддапамагу, шляхам адчыненьня спэцыяльных мэдпунктаў у мясцах згуртаваньня лесарубаў (больш 100 чалавек), для чаго Лесбелу ўскорыць заключэньне дагавароў з НКАховы Здароўя, а таксама забясьпечыць лесанарыхтоўкі аптэчкамі хуткай дапамогі.

г) Забясьпечыць працуючых на лесанарыхтоўках жылішчамі, лазьнямі, ў адпаведнасьці норм і пастаноў НКПрацы.

5. З мэтай падрыхтоўкі кадраў для лесанарыхтовак, Канфэрэнцыя лічыць неабходным:

а) Устанавіць пры вучастках бронь, аб чым Лесбелу і ЦП саюзу распрацаваць нормы і палажэньне аб броні.

б) Арганізаваць у 30 годзе 6-ці месячныя курсы на 60 чалавек,

в) Закантрактаваць у Полацкім лясным тэхнікуме 15 чал. студэнтаў з ліку сельгаслесрабочых, з ступэндыяй 50 руб. у месяц кожнаму.

6. Даручыць Лесбелу і ЦП саюзу не пазьней 1-га лістападу перазаключыць дагаворы на рабочых-лесарубаў і тэхпэрсанал, пры чым канфэрэнцыя лічыць неабходным:

а) Парадак аплаты на лесараспрацоўках устанавіць выходзячы з цьвёрдых падзённых ставак для асобных груп рабочых (лесаруба, шпалацёсаў) у залежнасьці ад віду працы і мясцовых умоў устанаўліваюцца цьвёрдыя расцэнкі і нормы выпрацоўкі.

б) Агаварыць у калдагавары аб выдачы спэцвопраткі лесарубам-батракам (рукавіцы), а вартаўнікам і заг. складамі спэцвопратку на нормах НКПрацы.

7. Улічваючы асаблівыя ўмовы, у якіх працуюць лесарубы і тэхпэрсанал (адсталасьць, раськіданасьць), Канфэрэнцыя лічыць неабходным радыёфіцыраваць лесанарыхтоўкі за кошт гаспадарчых і саюзных органаў, аб чым да-

ручае ЦП саюзу і Лесбелу распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па гэтым пытаньні з тым, каб у 29-30 г. лесараспрацаўкі былі поўнасьцю радыёфіцыраваны.

8. Канфэрэндыя даручае ЦП саюзу і Лесбелу ўзмацніць кіраўніцтва і інструктаж на лесараспрацоўках, асабліва па экспорту (па лініі Лесбелу).

9. Дабіцца рашучага пералому ў справе барацьбы за папярэджваньне няшчасных выпадкаў на лесанарыхтоўках, шляхам шырокага азнаямленьня адміністраціўна-тэхнічнага пэрсаналу і асабліва лесарубачн. масы з „правіламі папярэджваньня няшчасных выпадкаў на лесанарыхтоўках“ строгага іх захаваньня ў час работы і мець нагляд з боку тэхнічнага пэрсаналу.

10. Возка дровалесаматар'ялаў павінна, як правіла, вытварацца арцелямі з бедняцка-серадняцкага сялянства, арганізаванымі па шляху КСУ, пры чым у першую чаргу, дзеля вывозкі павінны быць прыцягнуты калгасы.

11. Маючы на ўвазе, што ў залежнасьці ад перадачы НКЗБ лесасек Лесбелу залежыць сваечасовае выкананьне пляну лесанарыхтовак і зьніжэньне сабекоштоўнасьці, даручыць ЦП саюзу і Лесбелу прыняць адпаведныя меры да хутчэйшай перадачы лесасек. Адначасова зьвярнуць увагу на сваечасовую прыёмку Лесбелам падгатоўленых лесасек.

12. Канфэрэнцыя заклікае ўсіх рабочых, спэцыялістых і служачых на лесараспрацоўках к калектыўнай, дружнай і энэргічнай рабоце на лесанарыхтоўках. з тым каб перавыканаць праграму лесанарыхтовак на 29-30 год.

## ПАСТАНОВА

**Усебеларускай Вытворчай лесанарыхтоўчай Канфэрэнцыі па дакладу ЦП саюзу аб рабоце вытворчых нарад і камісій на лесараспрацоўках, аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва і пераходу на непарыўны рабочы тыдзень.**

Заслухаўшы даклад ЦП саюзу аб рабоце вытворчых нарад і камісій і аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва на лесараспрацоўках, Усебеларуская вытворчая канфэрэнцыя адзначае, што вырашэньне задач, пастаўленых 16-ай партканфэрэнцыяй і Пленумамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб 5-ці гадовым пляне ў галіне лясной гаспадаркі яе пасьпяховага выкананьня праграмы лесанарыхтоўкі, зьніжэньне сабекошту, палепшаньня якасьці прадукцыі, якое мае вялікае значэньне, як для ўнутранага спажываньня, так і для экспорту, патрабуюць максімальнай энэргіі і ініцыятывы з боку ўсей рабочай масы і спэцыялістых на лесанарыхтоўках, шляхам шырокага і актыўнага ўдзелу ў рабоце вытворчых нарад і камісій, праз шырокае разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва.

1. Канфэрэнцыя адзначае, што тэмп вытворчай работы на лесанарыхтоўках надзвычайна слабы. У рабоце вытворчых нарад і камісій ня была зьвярнута належная ўвага галоўнейшым пытаньням: мэханізацыі лесараспрацовак, зьніжэньню сабекошту, палепшаньню якасьці, прадукцыі, прапрацоўка вытворчых праграм вучасткаў і арганізацыі працы на лесараспрацоўках.

2. Слабае кіраўніцтва работай вытворчых нарад і камісій на лесанарыхтоўках з боку акраддзяленьняў і рабачкомаў, адсутнасьць належнай плянавасьці ў рабоце апошніх, слаба прыцягваліся да практычнай работы вытворчых нарад рабочыя масы лесарубаў і спэцыялістыя, адсутнічае вучот прапаноў вытворчых нарад і праверка іх выкананьня гаспадарнікамі і нерашучае высоўваньне лепшых рабочых, праявіўшых сабе на вытворчасьці, на кіруючую гаспадарчую працу.

Выходзячы з гэтага канфэрэнцыя лічыць неабходным для поўнага вырашэньня пастаўленых задач у галіне лесанарыхтовак, усю работу саюзных органаў на лесанарыхтоўках падпарадкаваць узмацненьню і пашырэньню вытворчай працы праз шырокае ўцягваньне рабочых лесарубаў, тэхперсаналу і спэцыялістых у работу вытворчых нарад і камісій.

Шырока разгарнуць сярод рабочых крытыку і самакрытыку ўсяе правадзімай работы, рашуча рэагіруя на моманты неўважлівых і бюракратычных адносін асобных адміністратараў да выкананьня пастаноў вытворчых нарад і камісій, асьвятляючы ўсю работу ў насьценгазэтах і старонках „Бел. Батрака". Канфэрэнцыя лічыць неабходным, каб акрпраўленьні і райінструктара зьвярнулі асноўную ўвагу на палепшаньне кіраўніцтва работай лесаруб-рабачкомаў, асабліва ў напрамку ажыцьцяўленьня дзейнасьці работы вытворчых камісій і нарад; устанаўленьня строга-плянавага характэра ў іх рабоце няменш аднэй нарады ў месяц. Сваечасова папярэдня падрыхтоўвываць прапрацоўку камісія, вынасімых пытаньняў на абгаварэньне вытворчых нарад і лепшай пастаноўкі вучоту выкананьня вынесеных пастаноў гаспадарчымі органамі.

3. Канфэрэнцыя даручае саюзным органам і трэсту Лесбела больш рашуча праводзіць высоўваньне рабочых, якія праявілі сабе на вытворчасьці і ў рабоце вытворчых нарад, на адказныя гаспадарчыя пасады, шырока абгаварваючы вылучаемыя кандыдатуры на агульных сходах і вытворчых нарадах.

Увесьці ў сыстэму пасылку на экскурсыі і вытворчыя канфэрэнцыі за кошт гаспадарчых органаў лепшых удзельнікаў вытворчых нарад, а таксама практыкаваць прэміраваньне рабочых за каштоўныя прапановы па рацыяналізацыі вытворчасьці і за вышэйшую вытворчасьць працы.

4. Канфэрэнцыя адабрае рашэньне ЦП саюзу аб арганізацыі курсаў па перакваліфікацыі рабочых і тэхперсаналу і разам з гэтым адзначае ў рабоце апошніх шэраг недахопаў (прагулы за адсутнасьцю лектараў, ня зусім удачны падбор курсантаў і лектароў), на падставе гэтага канфэрэнцыя даручае ЦП саюзу і трэсту Лесбела ўлічыць гэтыя моманты пры арганізацыі наступных курсаў, а таксама ўзмацніць вытворчавыхаваўчую работу сярод рабочых пры рабачкомах праз арганізацыю гурткоў і лекцый на вытворчыя тэмы і ў мэтах скарыстаньня вопыту работы на лесанарыхтоўках. Даручыць акраддзяленьням і райінстуктарам практыкаваць правадзеньне раённых вытворчых нарад па пытаньням гаспадарчай і саюзнай работы.

5. Прапанаваць усім саюзным органам у рабоце вытворчых нарад на лесанарыхтоўках кіравацца пастановай Прэзыдыума ад 6 чэрвена 1929 г. (гл. бюл. ЦП № 9).

**Аб сацыялістычным спаборніцтве на лесараспрацоўках.**

1. Канфэрэнцыя канстатуе, што заклік партыі і ўлады да рабочае клясы аб перамозе цяжкасьцяў, выклікаемых рашучым пераходам дзяржаўнай гаспадаркі на новыя рэйкі рэканструкцыі, знайшоў жывы водгук сярод рабочых, служачых і спэцыялістых на лесанарыхтоўках. Аднак ў практыцы правядзеньня сацыялістычнага спаборніцтва, Акруговыя Аддзяленьні, рабачкомы і гаспадарчыя органы ня прынялі адпаведных крокаў да кіраўніцтва і замацаваньня пад'ёму актыўнасьці шырокіх рабочых мас, якая высьвятлілася ў пачатку сац. спаборніцтва, дзякуючы чаму маецца шэраг буйных недахопаў, як-та:

а) Надзвычайнае зацягненьне заключэньне дагавароў (2-3 месяцы пасьля прыняцьця выкліку на спаборніцтва).

б) Фармальныя адносіны к сац. спаборніцтву, правядзеньне яго апаратным парадкам, без шырокага абгаварэньня на рабочых сходах, вытворчых нарадах і камісіях і слаба разгорнута сац. спаборніцтва ўнутры вучастку паміж асобнымі арцелямі і спэцыялістымі.

в) У дагаворах зусім ня прадуглежана барацьба за зьніжэньне сабекошту прадукцыі, а таксама і рацыяналізацыі распрацовак.

г) Да гэтага часу надзвычайна слаба пастаўлена праверка вынікаў сац. спаборніцтва, не праводзіцца самаправерка выкананьня дагавароў і наогул кепська інфармуецца маса аб ходзе і выніках сац. спаборніцтва.

2. Выходзячы з гэтых недахопаў і магутнага значэньня сац. спаборніцтва ў справе хутчэйшага выкананьня праграмы лесанарыхтовак, канфэрэнцыя зьвяртае ўвагу саюзных і гаспадарчых органаў на неабходнасьць прыняцьця

самых рашучых крокаў да зьнішчэньня адзначаных недахопаў і дабіцца поўнага ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па зьніжэньню сабекаштоўнасьці, паменшаньня колькасьці прастояў, палепшаньня якасьці выпрацоўваемай прадукцыі—праз правядзеньне мэханізацыі ласараспрацовак, павышэньня вытворчасьці працы.

3. Канфэрэнцыя прапануе ўсім Акраддзяленьням і рабачкомам тэрмінова распачаць праверку выкананьня палітычных гаспадарчых дагавароў, выяўленьня ўсіх прычын, перашкаджаючых сац. спаборніцтву і прыступіць да прапрацоўкі і заключэньню новых палітычна-гаспадарчых дагавароў на падставе кантрольных лічбаў 1929-30 году і зьвярнуць максімум увагі на кіраўніцтва сац. спаборніцтвам. Дабіцца таго, каб пытаньне сац. спаборніцтва зьяўлялася асноўным зьместам працы вытворчых нарад і камісій, якія павінны быць кіруючымі цэнтрамі і арганізатарамі сац. спаборніцтва.

4. Вынікі праверкі заключаных палітычна-гаспадарчых дагавароў і заключэньня новых дагавароў шырока абгаварваць на агульных сходах вучастку, падвучастку, асобных арцеляў, а таксама праводзіць заключэньне палітычна-гаспадарчых дагавароў ня толькі паміж аддзяленьняў і вучасткаў, але ўнутры вучастку (падвучастак, асобная арцель).

5. Адзначаючы недастатковы ўдзел у сац. спаборніцтве спэцыялістых на лесанарыхтоўках і што пасьпяховасьць у правядзеньні сац. спаборніцтва ў значнай ступені залежыць ад актыўнасьці і непасреднага ўдзелу разам з рабочымі і анміністрацыйна-тэхнічных працаўнікоў і спэцыялістых, канфэрэнцыя заклікае ўсіх спэцыялістых, тэхнічны-пэрсанал на дапамогу ў справе па разгортваньню сац. спаборніцтва і поўнаму ўцягненьню іх у гэту справу.

**Аб пераходзе на бесьперапынны рабочы тыдзень на лесараспрацоўкам.**

Канфэрэнцыя лічыць неабходных перавесьці працу як тэхнічна-адміністрацыйнага і рахунковага персаналу, а таксама рабочых лесарубаў, арганізаваных у пастаяныя арцелі, на бесперапынны рабочы тыдзень, даручыўшы ўсім саюзным і гаспадарчым органам на мясцох прапрацаваць гэта пытаньне з мэтай хутчэйшага перахода на бесьперапынны рабочы тыдзень.

---

*Усім арганізацыям Саюзу СГЛР.*

15/XII-1929 г. пачынаецца справаздача—перавыбарчая кампанія Камытэтаў і ўпаўнаважаных таварыств сялянскае ўзаемадапамогі.

Перавыбары КСУ павінны прайсьці пад лёзунгам узмацненьня ролі КСУ ў справе рэканструкцыі с/гаспадаркі і вытворча-матар'яльнай дапамогі батрацтву і беднаце.

Перавыбары КСУ і ўпаўнаважаных неабходна скарыстаць для ўзмацненьня пралетарскага ўплыву ў рабоце апошніх.

Пагэтаму Бел. Респ. К-т саюзу прапануе ўсім саюзным арганізацыям:

1. Прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі КСУ і ўпаўнаважаных.

2. У склад выборчых камісій выдзяліць: у акруговыя камісіі прадстаўнікоў акругкомаў саюзу, ў раёныя—райінструктароў саюзу, або старшынь бліжэйшых к раённаму цэнтру рабачкомаў, у склад сельскіх камісій выдзяліць прадстаўнікоў с/рабачкомаў, а калі на тэрыторыі с/с няма с/рабачкома, прадстаўнікоў другіх рабачкомаў саюзу (саўгасы, лясьніцтвы і інш.).

3. Пляны справаздачна-выбарчае камісіі КСУ абгаварыць на паседжаньнях акругкомаў і рабачкомаў саюзу, намеціў мерапрыемствы па прыцягваньню ўсіх сельгаслесрабочых, работніц, батракоў, батрачак і пастухоў на справаздачна-перавыбарчыя сходы КСУ, і вясковых упаўнаважаных.

4. Прыцягнуць сельгаслесрабочых да дзелавое крытыкі і самакрытыкі ўсяе

работы КСУ, высьвятліў, наколькі яны садзейнічаюць рэканструкцыі с/гаспадаркі, што робяць для ўцягненьня батрацтва і беднаты на сэзонна-масавыя работы на вёсцы (лесараспрацоўкі, меліарацыя, торпраспрацоўкі, дарожнао будаўніцтва), а таксама на розныя сталыя і часовыя работы ў каапэрацыйных, грамадзкіх дзяржаўных установах, як выконваюцца маючыеся аб гэтым пастановы.

5. На паседжаньнях рабачкомаў і на агульных сходах рабочых і батракоў папярэдня намеціць у склад КСУ і Рэўкамісій і для вылучэньня на кіруючую работу ў КСУ кандыдатуры клясава-вытрыманых батракоў, батрачак, пастухоў і ад іншых груп сельгаслесрабочых, паставіў гэтыя кандыдатуры на абгаварэньне сходаў беднаты і батрацтва, дабіваючыся захаваньня кіруючай ролі за батрацтвай і беднатой.

6. У склад Рэўкамісій КСУ, патрабуючых тэхнічных сіл пры рэвізіях выдзяліць пісьменных батракоў і сяброў саюзу, знаёмых з гэтаю працаю (справаводы лясьніцтв, аб'езчыкі, аграномы і інш.).

7. Падрыхтаваць батрацтва і беднату да арганізаванага рашучага адпору кулацкім элемэнтам, якія бязумоўна будуць імкнуцца да працягваньня ў КСУ сваіх людзей у мэтах зрыву работы КСУ і скарыстаньня гэтых організацый у сваіх мэтах.

8. Пры перавыбарах КСУ дабіцца, каб у склад кожнага сельскага КСУ было абрана ня менш 3-х батракоў у тым ліку ня менш аднэй батрачкі і ня менш 1-2-х сельгаслесрабочых у склад Рэўкамісій, вылучая батракоў абраных у склад КСУ, на кіруючыя пасады.

9. Удзел саюзу ў перавыбарах КСУ шырока асьвятляйце ў друку. Па сканчэньні перавыбараў КСУ прыслаць не пазьней 5-ІІ-30 г. у Бел. К-т падрабязныя інфармацыі аб выніках праведзенае работы.

Старшыня Бел. Рэсп. К-ту **Вайтэнкаў.**

Заг. Арг. Аддзелу **Аскерка.**

---

## *Усім акругкомам, робачкомам, сельрабачкомам і камслужам саюзу СГЛР.*

Бел. Респ. К-т прапануе прыступіць да работы па складаньню каштарысаў рабачкомаў на 1930 г. Каштарысы павінны складацца на цэлы год, гэта значыць на 12 месяцаў. Пры складаньні каштарысаў рабачкомаў кіравацца паказаньнямі Б. Р. К., якія зьмешчаны ў бюлетэні Б. Р. К. № 8 (26) ад 15/VI-29 г.

У сувязі з разгортваньнем работы па зьнішчэньню няпісьменнасьці і па ўкамплектаваньню саюзных бібліатэк новаю літэратураю, БРК прапануе пры складаньні каштарысаў рабачкомаў прадугледзіць павялічэньне сродкаў на ліквідацыю няпісьменнасьці, адпусьціўшы на гэту мэту ня менш 15 проц. ад сумы выдаткаў на культпатрэбы, а там, дзе магчыма, давесьці гэту суму да 20 проц. Для набыцьця літаратуры прадугледзіць таксама каля 20 проц. ад агульнае сумы выдаткаў на культработу.

Апрача гэтага ў выдатковай частцы культфонду рабачкому прадугледзець 10 проц. на мэтавыя патрэбы, як та: ўтрыманьне кіно-перасовак, культперасовак, радыефікацыя, прафкурсы і г. д. Гэтыя сродкі перасылаюцца ў культфонд Акругкому саюзу.

Каштарысы рабачкомаў на 30 год павінны быць прадстаўлены на зацьверджаньне ў Акругкомы саюзу, а па Менакрузе—у Бел. Рэсп. К-т не пазьней 15/XII-29 г. Акругкомы саюзу прысылаюць БРК зводкі каштарысу рабачкомаў не пазьней 5/I-1930 г.

Разам з гэтым Б. Р. К. прапануе Акругкомам і рабачкомам цэнтралізаваць у акруговых камітэтах усе сродкі, прадугледжаныя ў каштарысах рабачкома, на ліквідацыю няпісьменнасьці на другое паўгодзьдзе 1929 году. Гэта выклікаецца тым, што разрахунак з настаўнікамі за работу па зьнішчэньню няпісьменнасьці будзе утварацца праз АКРАНА. БРК папярэджвае Акругкомы саюзу аб недапушчэньні выдаткаваньня гэтых сродкаў на другія патрэбы.

Сэкратар Б. Р. К. **Шчамялёва.**

Адк. скарбнік **Аскерка.**

*Рабачкомам усіх саўгасаў БССР.*

## Аб радыёфікацыі саўгасаў.

БелРэсКа саюзу сумесна з Белсельтрэстам прыступіў да сплашной радыёфікацыі саўгасаў з трансляцыямі ў кватэры ў працягу 3-х бліжэйшых год.

На падставе гэтага вам неабходна ў 2-х тыднёвы тэрмін даслаць у БРК наступныя зьвесткі:

1. Ці маецца ў саўгасе радыё-прыёмнік, яго сыстэма, спраўнасць, наяўнасьць гучнагаварыцеля, колькі лямп у прыёмніку.
2. Колькі ў саўгасе маецца кватэр рабочых і служачых.
3. Ці маецца ў саўгасе клюбнае памяшканьне.

Як паказвае практыка, ў саўгасе няма сталага таварыша, які-б наглядаў за спраўнасьці прыёмніку, ў выніку чаго апаратура надта часта псуецца і не працуе. Побач з правядзеньнем радыёфікацыі—будуць праводзіцца радыё курсы для падрыхтоўкі таварышоў, у абавязак якіх будзе ўваходзіць нагляд за радыёапаратурай, але яшчэ да гэтага часу вам належыць зараз-жа вызначыць аднаго таварыша, які-б сачыў за спраўнасьцю прыёмніка і не дапушчаў бы да апаратуры не знаёмых з гэтай справай таварышоў.

У выпадку неабходнасьці рамонту апаратуры пры яе няспраўнасьці, ў бліжэйшых ад г. Менску саўгасах, неабходна паведаміць БелРэсКа на прадмет прысылкі манцёра для рамонта.

Заг. культаддзелам БРК саюзу **Башмачнікаў.**

Кіраўнік спраў **Юшкевіч,**

---

*Усім прафорганам н/саюзу.*

## Аб выпісцы часопісу „Культурная Рэвалюцыя“.

Бел. Рэсп. К-т Саюзу рэкамендуя Вам выпісаць з 1-га студзеня 1930 г. часопіс „Культурная Рэвалюцыя“ у якім зьмяшчаюцца кіруючыя паказаньня і асьвятляецца вопыт прымяненьня новых форм работы культкамісіі, чырвонага кутку, клюбу і інш.

Часопіс культработы прафсаюзаў—„Культурная Рэвалюцыя“—патрэбэн у працы буйных культкамісій і чырвоных куткоў н/саюза ячэек.

Выпісываць можна за сродкі прадугледжаныя па каштарысу праз бліжэйшую паштовую кантору.

Заг. К. А. **Башмачнікаў.**

Кіраўнік спраў **Юшкевіч.**

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў.**

Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2789. Тыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдома